# Звон.

Беларуская штодзенная політычна-літэратурная часопіс.

Рукапісы павінны быць перапісаны чытэльна. Аплата прынятых рукапісаў залежыць ад Рэдакцыі.
Рукапісы назад не выдаюцца.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
**м. Мінск. Юбілейны дом.**

Цана нумару 1 марка.

Год выданьня I.

РЭДАКЦЫЯ адчынена штодня, апрача сьвят ад 9—12 гадз. і ад 5 7 гадз.

**Цана абвестак:**
за 1 радок за тэкстам . . . 2 м.
шукаючым працы, за абвестку 2 м.

№ 5. Менск, Середа 3 верасьня 1919 г. № 5.

Дзеле вялікага недахвату паперы газэта часова выходзіць тры разы на тыдзень: *у панядзелак, сераду і пятніцу.*

## Абвяшчэньне № 16.

Намесьніка Гэнэральнага Камісара Усходніх Зямель.

1. Паведамляецца наогул, што усякіе распараджэньні і дэкраты бальшавіцкай улады аб прыватнай уласнасьці—гэтым загадам касуюцца і нададей траціць сваю вагу і сілу.

2. Ад камітэтаў, паўстаўшых па загаду урадаў бальшавіцкіх і усіх пастаўленых праз тую-ж уладу загадчыкаў і кіраўнікоў справамі гаспадаркі лясной і польнай, с выданьнем гэтага аглашэньня адбіраецца усякае права утыкацца у справы прыватнай зямельнай уласнасьці. Ураз, па перадачы усей маентнасьці, камітэты распускаюцца. Арганізацыі зьвязкаў селянскіх працаўнікоў могуць закладывацца толькі па адтрыманьні дазваленьня, зацьверджанага Урадам.

3. Усякая прыватная уласнасьць ці будзе яна награбленай ці мо прынадкова знаходзячаяся у незаконных уласьціцеляў,—павінна быць безадкладна зьвернена.

4. Уласьціцелі зямельнай маетнасьці, альбо іх праваможные намесьнікі змушаюцца да 10 верасьня прыняць у свае уладаньне зямельную маетнасьць, каторая муcе быць ім перахазана праз Ліквідацыйную Камісію бышага Ураду прыватнай (зацьверджанай законна) уласнасьці, і гэта павінна быць спраўджана (афармлена) законнымі актамі.

5. Зямельная маетнасьць ня прынятая уласьціцелямі да 10 верасьня гэтага году у свае рукі бяз асобна важных да гэтага прычын, пазастае у уладзе адміністрацыі Ураду краевага і можа быць аддана у арэнду на сходзючы год гаспадарчы.

Намесьнік Гэнэральнага Камісара Усходніх Зямель на Менскі Округ:
Ул. РАЧКЕВІЧ.

Адміністрацыйны Кіраўнічы Справамі МЕШЧАНОЎСКІ.

## Абвяшчэньне № 19.

Гэтым паведамляецца, што с сягоднешняга дня цывільным асобам дазваляецца свабодна хадзіць па месьце да гадзіны 22-ой (10-й) вечарам.

Выданые дагэтуль часовые пропускі павінны быць переменены, дзеле гадзіны вячэрняй, на новые, каторые будуць выдавацца у урадзе Начальніка Паліцыі.

Намесьнік Гэнаральнага Камісара на Менскі Округ Ул. РАЧКЕВІЧ.
Кіраўнічы Адміністрацыйнымі Справамі А. МЕШЧАНОЎСКІ.
Менск, дня 29 жніўня 1919 г.

## Няма цэнтру.

Цяпер, калі сапраўды вырашаецца доля нашае Бацькаўшчыны, беларускі рух ня мае політычнага цэнтру. Мы маем Рады Віленшчыны і Гродзеншчыны, ёсьць у нас Нацыянальны Камітэт у Менску, каторы мае рэарганізавацца ў Раду Меншчыны, але няма тэй правамоцнай, цэнтральнай арганізацыі, каторая гаварыла-б ад ўсяго беларускага грамадзянства каторая-б злучала ў сабе політычную чыннасьць усіх паасобных арганізацыяў і груп, і зьвярнула-б на сябе увагу ўсяго беларускага народу. Усе выпадкі апошніх год зьнявершылі наш народ. Ен шукае сабе рады ў сабе і кале сябе, і толькі арганізацыя, утвораная ў імя яго і ў імя дабра яго бацькаўшчыны, можа стаць яго павадыром і кіраўнічым.

Праўда, мы маем Раду Б. Н. Рэспублікі, але пры сучасных політычных умовах яе было-б занадта трудна склікаць. Тым часам цэнтр, або адпаведную арганізацыю ўсяго нашага руху, мы павінны утварыць у самы кароткі час. Жыцьцё ня чакае, бо народ разабьецца на дзьве часткі подлуг дзвюх суседніх культур і мы, сьведкі сягоднешняга, будзем констатаваць толькі падзел нашай Бацькаўшчыны на двое.

Уратаваць палажэньне можа толькі політычны цэнтр нашага руху. Гэты цэнтр ёсьць,-толькі бальшавіцкая навала на некі час была адціснула ад яго увагу народа. Народ чакае яго, шукае яго ўсюды і на яго пакладае свае надзеі. Гэта пасьведчыць кожны, хто быў на вёсцы і умеў гаварыць з нашым сялянствам. Гэтым політычным цэнтрам у цяперашні момант павінен быць той орган, што выдзяліла з сябе Рада ў особе Рады Н. Міністраў. Яму Рада даручыла вясьці сваю работу, і ён павінен цяпер стаць тым, чым ёсьць. Ен павінен злучыць кале сябе політычную работу ўсіх новаутвораных арганізацыяў і павясьці сваю працу подлуг рэяльных, відочных адносін нашых суседаў. А гісторыя нашага народу і відочные адносіны нашых суседаў гавораць нам пра тое што мы павінны іці ў контакту з Польшчай. Толькі політычная сувязь з нашай суседкай з заходу можа забяспечыць нам максімум нашых культурных і эконамічных запатрэбаваньняў. Толькі тое, што будуецца на цьвердым гістарычным грунці, мае сілу і будучыну.

---

## Абяцянка—цацанка, а дурному радасьць.

Кожная політычная партыя мае сваю тэорыю, свае мэты і лёзунгі, у якіх гэта тэорыя і мэты коратка і ясна выказваюцца. Дабіваючыся сваіх мэт, партыя павінна выставіць толькі тые абяцанкі, якіе яна можа уісьціць, не адымаючы таго добрага, што народ ужо мае. Іначай партыя можа вызваць няхэнць (устрэнт) да сябе і, маючы высокіе мэты, быць прычынаю не прогрэсу, а упадку грамадзянства.

Асноваю усякага прогрэсу зьяўляецца добра праваджавая гаспадарка, каторая забяспечвае перш усяго усе матэрыяльные патрэбы народу. Маючы гэтыя прыпцыпы на увазе, глянем на працу бальшавікоў. Глаўная мэта іх—захват імі улады, ці як яны называюць «дыктатура пролетарыяту», і утрыманьне яе усімі способамі, ня лічучыся ні з якою маральлю. Каб дапяць гэтага, яны кінулі лёзунгі «далоў вайну» і «ўся зямля адразу належыць усяму народу». Цёмнаму, ня ведаючаму, за што ён ваюе, народу абрыдла вайна, ён хацеў спакою і зямлі. Салдаты кінулі фронт і паўцякалі дадому, каб там бяз іх не падзялілі зямлі. Гарнізон Петраграду падтрымаў бальшавікоў, у другіх мейсцох адпор быў слабы, і ўласьць перайшла у іх рукі. Усе чыста маёнткі, гэтыя фабрыкі хлеба, былі зьнішчаны: двары папалены, інвэнтар разграблены. Усе уклады ў банкі, больш за 10 тысяч рублеў, былі

